

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№20 (292) СНЕЖАНЬ 2020 ГОД

ПАДЗЕЯ ГОДА

## НАРАДЖЭННЕ НАЦЫІ АДБЫЛОСЯ

**Адыходзіць у мінулае 2020 год. Чым ён стаў адметным для нашай краіны, для ўсіх беларусаў і для нашых шумілінскіх землякоў?**

У пачатку жніўня 2020 адбыліся самыя драматычныя падзеі, бадай што, за ўсю навейшую постсавецкую гісторыю Беларусі. Сёлетняя прэзыдэнцкая кампанія нечакана для ўсіх вылілася ў масавыя пратэсты не толькі супраць адыёзнага рэжыму Лукашэнкі, але і наогул супраць усёй безнадзейна састарэлай сістэмы улады. Прынамсі, яе галоўны начальнік заявіў на мітынгу рабочым, што ніколі не пакіне сваю пасаду, хіба што пасля сваёй смерці.

У агульнай колькасці на вуліцы беларускіх гарадоў выйшла болей за два мільёны чалавек. А ў другую нядзелю жніўня на масавым мітынгу ў нашай сталіцы горадзе Менску сабралася да 400 тысяч беларусаў! Наша глыбінка таксама абудзілася, падчас агітацыйнай кампаніі за Святлану Ціханоўскую у Шуміліне сабралася да 200 чалавек. І пасля выбараў шумілінцы выказалі салідарнасць: два разы былі стыхійныя акцыі пратэсту ўздоўж дарогі Віцебск-Полацк. Пры гэтым шматлікія аналітыкі як і ў нас, так і за межамі краіны дагэтуль не могуць зразумець, адкуль так раптоўна ўзняліся хвалі нацыянальнага абуджэння, забушавала цэлае мора людей? І гэта насуперак прывычных стэрэатыпаў пра тое, што беларусы маюць нібыта "памяркоўны і талерантны" менталітет?

Асабліва варта адзначыць тое, што масавыя пратэсты насілі выключна мірны характар. Прычым нягледзячы на брутальную рэакцыю уладаў, якія прымянілі да мірных людзей турмы, катаванні і забойствы ні ў чым не павінных людзей. На сённяшні дзень застаецца за кратамі яшчэ 160 палітзняволенных.

Рэспубліка Беларусь – дзяржава ў Еўропе зусім маладая. І да сёлетняга лета нашы грамадзяне яшчэ не асэнсавалі, наколькі яны насамрэч могуць быць неймаверныя і моцныя. Зараз сама краіна зазнае ўнікальны працэс. У адрозненні ад суседзяў – мы вельмі своеасаблівы народ, наша нацыянальнае адраджэнне і нацыянальная ідэя, імкненні да неалежнасці не падобныя ні на што. Можна нават і сказаць і так, што ў параўнанні з суседнімі праектамі літоўскім, польскім ці украінскім – нашы продкі рэалівалі свае ідэі па "анамальнай схеме". Да прыкладу, калі яшчэ ў пачатку 20 стагоддзя ў 1905 годзе літоўскія сяляне патрабавалі ад царскіх уладаў Расейскай Імперыі дакументы на сваёй роднай мове, то большасць простых беларусаў дбалі толькі аб кавалку зямлі ды хлебе надзённым. Нацыянальным адраджэннем займался ў асноўным інтэлігенцыя, а просты люд быў заклапочаны фізічным выжываннем. Так склалася гісторычны, бо наш народ болей за ўсіх пацярпеў ад войнаў. Толькі ў 20 стагоддзі беларусы некалькі разоў падвяргаліся генацыду.

Тое ж адбылося і ў пачатку 90-х пасля распада Савецкай Імперыі. Народы краін Балтыі ўзяліся за рукі і пайшлі ў Еўрапейскі дом – Еўразвяз і НАТА. А пераважная большасць беларусаў прагаласавалі на рэферендуме чамусьці за рэанімацыю "імперыю зла" СССР №2. Праўда, ці асэнсоўвалі яны тады сябе беларусамі, калі паддаліся на хлусліваю прапаганду савецкай бюракратыі аб нібыта "камфортным і бесклапотным" жыцці ў СССР? Бо па выніках "усесаюзнага рэферэндума, які адбыўся 17 сакавіка 1991 года ў Савецкім Саюзе і дзе абмяркоўвалася пытанне аб захаванні СССР" жыхары Беларусі ў большасці прагаласавалі за імперыю. За СССР галасавала: 5 069 313 – 82,7% , за незалежную Беларусь: 986 079 – 16,1%.

Усе яны гэтыя пяць мільёнаў з большага затым прагаласавалі за Лукашэнку і ў 1994 годзе, калі той абяцаў "вярнуць Савецкі Саюз".

Прайшло 26 гадоў. Змянілася цэлае пакаленне, а жыццё народа толькі пагоршылся. І наадварот, распладзілся вялікая армія бюракратыі савецкага тыпу, што наўпрост пажырае бюджетныя грошы, якіх не хапае, а крэдыты з Расеі не ўратоўваюць.

І тут здарыўся цуд. Калі раней на мітынгі хадзіла "апазіцыя ды актывісты", то цяпер выйшла, як пісаў Купала "агромністая такая грамада". З нацыянальнымі сімваламі. Беларусам стаў настолькі дарагі свой палітычны і грамадскі голас, што некаторыя ахвяравалі за яго сваё жыццё. І усім стала зразумела, што беларус цяпер проста так свой выбарчы бюлетэнь нікому не аддасць!

Самае важнае і добрае ў гэтым годзе толькі тое, што беларусы – аб'ядналіся. Калі раней было адчуванне, што ты – адзін, то цяпер – нас большасць. Мы – новая нацыя ў Еўропе.

**Алесь Шумскі**

***ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY***

ПЕРАСЛЕД

## А ЦІ БЫЛА "АБРАЗА"?

**18 снежня суд Шумілінскага раёну вынес рашэнне па крымінальнай справе мясцовага актывіста Дзмітрыя Кулакова. 29-гадовы шумілінец прызнаны вінаватым паводле арт. 364 КК (Пагроза гвалтам у дачыненні да супрацоўніка міліцыі) і арт. 369 КК (Абраза прадстаўніка ўлады). Суддзя Кацярына Унуковіч прысудзіла мужчыне тры з паловай гады абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу.**

Каментар быў надрукаваны 19 жніўня ў тэлеграм-канале «Лепель для жыцця».

Пракурор прасіў для Дзмітрыя Кулакова 6 гадоў пазбаўлення волі.

**Тры экспертызы**

Як распавяла жонка абвінавачанага Юлія, канфлікт пачаўся з таго, што да бацькі Дзмітрыя, які жыве ў Лепельскім раёне, прыехаў маёр Патоцкі, каб даведацца, дзе пражывае яго сын. Маёр паведаміў бацьку, што Дзмітрый нібыта раз'язджаў па Лепельскім раёне ў нецвярозым стане. Бацька запярэчыў, што сын не мае ні правоў, ні машыны. І такога не можа быць.

«Падчас выбарчай кампаніі Дзмітрый расклейваў улёткі ў Шуміліне. Яго хацелі затрымаць. Міліцыянту патрэбная была нейкая нагода», – тлумачыць жонка.

Абураны хлуснёй маёра міліцыі, Кулакоў выклаў пост, які ў выніку і стаў нагодай, каб абвінаваціць яго ў крымінальных злачынствах. Патоцкага Дзмітрый не ведаў, але меў аднагрупніка з гэткім жа прозвішчам, які скончыў акадэмію міліцыі. Мужчына палічыў, што гэта можа быць ён. Па сутнасці, напісанае ў тэлеграм-канале было адрасаванае нават не рэальнаму маёру Івану Патоцкаму.

«Абвінавачанне абапіралася на вынікі аж трэцяй па ліку экспертызы, якая пацвердзіла наяўнасць пагрозы ў фразе. Пры гэтым дзве папярэднія лінгвістычныя экспертызы ніякай пагрозы ў тых словах не выявілі. Гэта вельмі дзіўна. Дый паказанні Патоцкага былі вельмі блытаныя», – патлумачыла Юлія Кулакова.

Што цікава, пасля публікацыі ў тэлеграм-канале Дзмітрыя затрымалі на трое сутак. Ён прынёс міліцыянту прабачэнні, і пасля гэтага яго адпусцілі: два месяцы ён быў на волі. Затрымалі Кулакова 23 лістапада – ужо пасля таго, як была зробленая трэцяя лінгвістычная экспертыза.

**Дзмітрыя вызвалілі з-пад варты**

У апошнім слове Дзмітрый Кулакоў адзначыў, што не меў намеру абразіць маёра Патоцкага і тым больш пагражаць яму.

«Хутчэй за ўсё меў на ўвазе не «самасуд», а тое, што яму прыйдзецца судзіць сябе самаму, то бок – судны дзень, бо ён сказаў няпраўду. І ўсё!» – сказаў Дзмітрый Кулакоў.

«У мяне сям'я, двое дзяцей. Праз шэсць гадоў, якія запрасіў пракурор, малодшы мяне нават не прыгадае», – дадаў абвінавачаны ў апошнім слове.

Вырак аказаўся не такім жорсткім, якога патрабаваў пракурор. Суддзя Кацярына Унуковіч прызнала Дзмітрыя Кулакова вінаватым па абодвух артыкулах і прысудзіла яму агулам тры з паловай гады «хіміі» – абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу.

Пасля абвяшчэння прысуду Дзмітрый Кулакоў быў вызвалены з-пад варты.

Прысуд не набыў законнай моцы і можа быць абскарджаны.

**Сяржук Горкі**

РАСКОПКІ

## ПАХАВАННЕ ЧАСОЎ ВАЙНЫ

**Паблізу вёскі Пятніцкае пры правядзенні земляных работ кіроўцам пагрузчыка выяўленыя чалавечыя касцяныя астанкі.**

Следча-аператыўна група Шумілінскага міжраённага аддзела Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз правяла агляд мясцовасці. Папярэдне экспертам было ўстаноўлена, што з улікам вонкавага выгляду і глыбіні знаходжання парэшткаў ў грунце кар'ера знойдзена пахаванне часоў Другой Сусветнай вайны.

Усяго з пясчана-гравійнай сумесі вынята больш за 160 костак і іх фрагментаў. Парэшткі былі накіраваны ва ўпраўленне Дзяржкамітэта судовых экспертыз па Віцебскай вобласці для правядзення судовай медыка-крыміналістычнай экспертызы

У ходзе даследаванняў экспертамі ўстаноўлена, што доследныя касцяныя астанкі маюць анатамічныя прыкметы костак сямі шкілетаў чалавека. Ступень іх захаванасці сведчыць аб даўніны пахавання больш за 50 гадоў.

Касцяныя астанкі перададзены прадстаўнікам мясцовых органаў улады.

Дарэчы, у сярэднім за год ва ўпраўленні Дзяржкамітэта судовых экспертыз па Віцебскай вобласці праводзіцца каля 20 медыка-крыміналістычных даследаванняў касцяных парэшткаў.

**Сяржук Крупскі**

НАШЫ ЗЕМЛЯКІ

## ЗАСТАЎСЯ НА СЯЛЕ

**Чаму віцяблянін Дзяніс Пячко вырашыў застацца ў Мікіцісе выкладаць фізіку і інфарматыку ў сельскай школе.**

Настаўнік фізікі і інфарматыкі Дзяніс Пячко – віцяблянін, у Мікіціхінскую сярэднюю школу трапіў па размеркаванні, скончыўшы ВДУ імя П. Машэрава. Пасля абавязковай адпрацоўкі застаўся тут па закліку сэрца: Шуміліншчына стала для яго амаль роднай, а калектыў школы і мясцовыя хлопцы – другі сям'ёй.

З першага погляду дырэктар школы Вольга Асташонак зразумела, што малады настаўнік абраў прафесію па прызначэнні, а пазней, назіраючы за яго працай, цвёрда вырашыла: такога першакласнага спецыяліста трэба ўтрымаць любым коштам. Па заканчэнні двух гадоў пры садзейнічанні старшыні сельсавета выклапатала для яго кватэру. Хоць для Дзяніса Пячко

*(працяг на стр. 2)*

НАШЫ ЗЕМЛЯКІ

*(пачатак на стр. 1)*

кватэрнае пытанне важны, але вялікае значэнне для яго маюць менавіта атмасфера ў калектыве і зносіны з вучнямі.

Дзеці да яго цягнуцца, на ўрокі ходзяць з задавальненнем.

– Спачатку нават не ўяўляў, як буду выкладаць, але потым уцягнуўся, – падзяліўся малады настаўнік ўражаннямі пра свае першыя уроках. – Акрамя таго, што перадаеш веды дзецям, варта памятаць, што твая асоба ўплывае на іх у не меншай ступені: трэба любіць свой прадмет, гарэць ім. І вельмі важна ўмець знаходзіць індывідуальны падыход да кожнага.

У класах, дзе не больш за 10 хлопчыкаў і дзяўчынак, прасцей надаваць увагу кожнаму з вучняў, а графа адзнак у часопісе да канца ўроку амаль заўсёды запоўненая. Гэта дазваляе зразумець, хто і як засвоіў тэму, ў чым не разабраўся, і растлумачыць яшчэ раз. У гарадскіх класах з 25 - 30 вучнямі гэта зрабіць складаней.

У школе таленавіты педагог нарасхват: зрабіць відэа для калегі, які ўдзельнічае ў конкурсе прафмайстэрства, разабрацца з новымі праграмамі - няма праблем. Дзяніс Пячко яшчэ і добры атлет: у яго разрад па лыжным спорце, выступае за зборную школы, якая, дарэчы, сярод сельскіх устаноў адукацыі раёна заўсёды ў прызёрах на спартакіядах.

Шкадуе ён, што застаўся ў сельскай школе?

–Не, ні дня не было, каб адчуваў незадаволенасць у працы, - адзначыў малады педагог. – Рэалізаваць сябе ў прафесійным плане можна дзе заўгодна, але гэта залежыць ад самога чалавека: жадае ён скардзіцца на жыццё або пераадольваць сябе і рухацца наперад.

**vitvesti.by**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

КРЫМІНАЛ

# СКРАЛІ МАБІЛЬНІК

**У жывёлавода гаспадаркі «Сіроцінскі» на ферме падчас працы скралі мабільнік.**

Жывёлавод саўгаса «Сіроцінскі» паведаміла ў міліцыю, што з падсобнага памяшкання фермы Мосарава ў яе прапаў мабільны тэлефон.

Супрацоўнікі шумілінскага РАУС, якія выехалі на месца здарэння, адразу выявілі, што мабільны тэлефон мог прыбраць да рук хто-небудзь з мясцовых работнікаў або жыхароў вёскі. І такая першапачатковая версія неўзабаве пацвердзілася на практыцы, бо крадзеж здзейсніў слесар гэтай жа гаспадаркі.

Як затым высветлілася, гэты мужчына да таго ж быў яшчэ і раней судзімы, стаяў на ўліку ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі РАУС. Мабільны тэлефон быў канфіскаваны ў зламысніка і вернуты пацярпелай.

Супраць мужчыны ўзбуджана крымінальная справа па ч. 2 арт. 205 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Цяпер яму пагражае пазбаўленне волі да 4 гадоў.

**Сяржук Крупскі паводле матэрыялаў УУС**

ПАЖАРЫ

# ЗГАРЭЎ ДОМ

**У аграгарадку Слабада загарэўся жылы дом, маецца версія падпалу.**

13 лістапада ў 18.37 у цэнтр аператыўнага кіравання райаддзела па надзвычайных сітуацыях паступіла паведамленне пра загаранне дома ў аграгарадку Слабада Сіроцінскага сельсавета.

Пажарам быў знішчаны дах, пашкоджана столевае перакрыцце, сцены. Прычына пажару высвятляецца. Разглядаецца версія падпалу.

МНС нагадвае: калі вы сталі сведкамі пажару ці іншай надзвычайнай сітуацыі, не заставайцеся раўнадушнымі – неадкладна тэлефануйце па нумарах 101 ці 112 і паведамляйце выратавальнікам пра здарэнне.

**Сяржук Крупскі паводле АУ МЧС**

# ПАЖАР НА ШЧОРСА

**У Шуміліне гарэў жылы дом, ёсць ахвяра.**

Уначы 23 снежня на вуліцы Шчорса ў Шуміліна загарэўся жылы дом. Паведамленне аб пажары дома паступіла ў 01-58 ў службу выратавання Шумілінскага МНС ад участковага Шумілінскага РАУС.

Падчас прыбыцця падраздзялення МНС ужо назіралася адкрытае гарэнне даху і гарэнне ўнутры дома, паведамляе Віцебскае абласное упраўленне МНС.

У доме пражывалі 55-гадовы мужчына і яго 51-гадовы брат. Малодшы брат здолеў выбрацца з дома яшчэ да прыезду ратавальнікаў. Мужчына не пацярпеў.

Аднак на жаль, уходзе тушэння пажару работнікамі МНС у складзе звяна газадымаахоўнай службы ў пакоі на ложку быў знойдзены труп старэйшага.

У выніку пажару ў доме быў знішчаны дах, маёмасць, пашкоджаны паталочнае перакрыцце, сцены.

Прычына пажару высвятляецца. Разгляданая версія прычыны ўзнікнення пажару - неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

**Сяржук Крупскі паводле матэрыялаў МНС**

БІЯТЛОН

# СОЛА Ў РОЛІ ПАТЭНЦЫЙНАГА ДРУГОГА НУМАРА?

**У яе не ўсё ў парадку са стральбой, але гэта – меншае з бед. Мы захапляліся Алімбекавай, выказвалі трывогу адносна Крыўко, а зараз самы час прысвяціць асобны нарыс Ганне.**

Таму што заслужыла. Хоць бы тым, што пасля чатырох этапаў Кубка свету мае ў активе 65 балаў – на чатыры больш, чым па выніках мінулага сезона. Дзе, дарэчы, ільвіную долю зарабіла, дзякуючы чацвёртага месца ў спрынце ў Рупольдынгу. Як многія, мяркуюць, выпадковага. Так ці інакш, цяперашнія акуратныя заваёвы Солы пахвальныя ўдвая. Бо ставяцца да некалькіх гонках. А гэта ўжо як мінімум не выпадковасць – па меншай меры, супадзенне.

Хуткім ходам на працягу другой спаборніцкай тыдня ў Кантыялахці Ганна многіх забіла напавал. Ён ніякім чынам не выцякаў ні з міжсезонны трэніровачнага аб'ёму, ні з нашых апошніх штодзённых успамінаў пра яе лыжных здольнасцях. А між тым рацыянальнае зерне ў убачаным адшукаць рэальна.

Спытайце ў любога трэнера – і ён вам пацвердзіць. Каго хутчэй варта лічыць бесперспектыўным: спартсмена, які паказвае на працягу доўгага часу сярэднія, але стабільныя вынікі, альбо ж таго, хто большую частку стартаў партнёрам па зборнай прайграе, аднак аднойчы, што называецца, "прыбірае" іх вынікі? То бок становіцца канкурэнтаздольным на ўзроўні самой сусветнай эліты. Адказ профі ў сваёй вобласці будзе адназначным: калі захаваць у спорце абодвух немагчыма, лепш выпісаць крэдыт даверу другому.

Бо гэта не школьная парта, дзе аднойчы можна спісаць, і ня рулетка, у якой можа павезці. Тут ты альбо здольны, альбо няма. І нават адзін паспяховы эпізод сведчыць аб рэзервах арганізма.

Уласна, нездарма на Дар'ю Блашко, нягледзячы на наяўнасць уласных кваліфікаваных выхаванак, актыўна прэтэндавала Украіна. І яе ў выніку займела. Здавалася б, золата паўднёвых суседзяў у алімпійскай Эстафеце-2014, ёсць у зборнай якія працягваюць спаборнічаць дагэтуль уладальніцы тагачаснага золата Віта і Валя Семярэнка, а таксама Юлія Джыма ... Навошта ў такой сітуацыі гарэзніца з айчыннай каманды, якая, за выключэннем адзінкавага поспеху, толкам і не дэманстравала нічога выбітнага? Яно-то так, але і тлумачыцца ўсё проста: калі ў біяграфіі атлета ёсць такі прызавы выступ, значыць, адкідваць яго і лічыць не дужа здатныя вельмі неабачліва. Памятаючы, што цяпер Блашко вельмі няблага сябе праяўляе, прыклад паказальны і цалкам да месца.

Роўна тое ж самае з некаторай доляй шкадавання справядліва сказаць пра яшчэ адной беларускай біятланісты, ужо павесім, нажаль, вінтоўку на цвік, - Дар'і Юркевіч. "На жаль" – таму што, магчыма, яна таксама магла папросту не знайсці свайго спецыяліста. Не здолела належным чынам раскрыцца, працуючы па непадыходзячым методыкам. Пакутавала ад адсутнасці індывідуальнага да яе падыходу. І вельмі добра, што Сола да гэтага часу ў страі – і сама не паспела страціць надзею, улічваючы вельмі няўдалую другую палову папярэдняга сезону, і не была загадзя адвергнутая новым трэнерскім штабам.

Як вынік – выдатны ў параўнанні з сабой ранейшай ход па дыстанцыі. І зайздросны нават на ўзроўні планетарнай эліты. Прычым ён, што вельмі важна, перавандраваў у Ганны з досыць раўніннага Кантыялахці ў среднегорный Хохфільцэн. Быць можа, далей з ім будуць цяжкасці - ад спаду формы не застрахаваны ніхто. Але гэта, як той казаў, ужо заканамернасць. У пацверджанне – такі факт: у тых гонках, дзе Сола прымала ўдзел, – а на першым этапе Алег Рыжанкоў і Райнхард Гесвайнер аддалі перавагу ёй Ірыне Кручынкінай, – яна ні разу не была ў беларускай зборнай трэцяй або чацвёртай у лыжных паказчыках. Толькі лепшай, альбо другі!

Натуральна, не сказаць, што ў Солы поўны ці хаця б частковы парадак са стральбой. На сённяшні дзень дакладнасць у яе складае 72%. Гэта горш, чым у сотні з лішнім удзельніц, якія выходзілі ў бягучым сезоне на трасу. Каб не зусім падалі духам: ззаду беларускі знаходзіцца ў дадзеным рэйтынгу яшчэ 11 біятланістак. Калі хочаце яшчэ пазітыву, то ў наяўнасці нават прагрэс у параўнанні з КМ-2019/20 – там было на тры працэнты ніжэй.

Жарты жартамі, але гэта і праўда не так дрэнна. У тым сэнсе, што пры значнай дадатку ў лыжнай кампаненце стральба ў Солы ня прасела. Куды ёй яшчэ падаць, спытаеце? Так бывае. Бывае такое, калі дакладнасць падае да больш гнятлівых паказчыкаў.

Карацей кажучы, стральба – у прынцыпе справа нажыўное, як бы бравурна гэта ні гучала. У рэшце рэшт, ня прыходзілі б у біятлон з лыжных гонак спартсменкі, для якіх вінтоўка і стрэльбу раней былі чымсьці зусім чужымі. Узяць тую ж Дэніз Хэрман. Або прыклад, які бліжэй, – Анастасія Дубарэзава.

Зноў-такі, мастацтва ў звароце са зброяй – гэта тое, што ў большай ступені залежыць ад рупліваасці, цярпення і гатоўнасці метадычна выконваць адны і тыя ж дзеянні, каб на выхадзе быў вынік. Калі ў лыжнай складнікам усё на парадак мацней залежыць ад даравітасцю таго ці іншага чалавека, то ў стральбе доля таленту ці ледзь перавышае палову.

Не варта забываць, што Салея ўсяго толькі 24 гады – чвэрць стагоддзя споўніцца ў лютым 2021-га. А як паказвае практыка Дзінары Алімбековай, ператварэньне ў гэтым узросце цалкам магчыма (нагадаем, ёй 25 стукне ледзь раней – у будучыні студзені). Можна заваёўваць імя і адкрываць яго біятлонный эліты і ў такіх гадах.

Ганну і Дзінару, дарэчы, раднiць значна больше, чым можа здацца. Нягледзячы на зайздросны лыжны ход, часам у Солы не хапае сіл на заключныя кругі – з роўна той жа праблемай абсалютна рэгулярна сутыкалася і Алимбекова у ранейшыя гады. Здаралася, самая павольная на той момант з беларускіх біятланістак уражвала разгонам, а потым вымушаным чынам пераходзіла на энергазахавальны рэжым.

Так што калі далей мець месца эпізадычныя правалы – накшталт таго, які здарыўся з Солай ў гонцы ў масавым стартам – допушчальныя. Дакладней, яны зусім не выключаны ў далейшым. Іншая справа, што ставіць крыж на Ганне ніяк нельга – гэта ўжо відавочна. У жаночай беларускай камандзе ёсць зараз дзяўчына, з поўным правам якая прэтэндуе на ролю другога нумара – калі прымем за дадзенасць, што статус лідэра належыць Алімбекавай.

Што будзе пасля Новага года, сказаць цяжка. Аднак цяпер складваецца парадаксальная карціна: па спартовым прынцыпе, зыходзячы з апошніх выступаў у Хохфільцэне, адзіная, на чыё месца ў заявачным квартэце на асабістыя гонкі можа прэтэндаваць заставалася па-за старт-лістоў Ірына Кручынкіна, – гэта ... яе цёзка Крыўко.

**pressball.by**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

ВЫНІК

# БЕЛОРУСЫ ПОВЗРОСЛЕЛИ, ДУБИНКИ ЛУКАШЕНКО НЕ РЕШАЮТ ПРОБЛЕМЫ

**Десять лет назад, 19 декабря 2010 года, состоялась знаменитая Площадь. На акцию протеста по итогам президентских выборов вышло, как тогда казалось, море людей — тысяч 25-30. Площадь жестоко разогнали — как хвалился потом Александр Лукашенко, «за семь с половиной минут». И на следующий день недовольный народ высовываться уже не рискнул.**




© Getty Images/AFP/S. Gapon

Тогда никто не предвидел, что десять лет спустя на минских улицах будет уже не море, а океан людей — до двухсот тысяч и больше, и что жестокость силовиков только подхлестнет протесты, которые перерастут в первую волну белорусской революции.

За это десятилетие белорусское общество сильно изменилось, повзрослело, в нем сформировался мощный запрос на политические перемены. А вот власть осталась консервативной, заскорузлой, мыслящей в парадигме «царь и подданные». Так что жестокий конфликт был неизбежен, и он продолжается. Несмотря на зашкалившие репрессии, протесты не утихают пятый месяц…

**Тихановская аккумулировала надежды на перемены**

Может быть, поэтому тогда, в 2010-м, наверху решили сыграть в либерализм, блеснуть перед Европой и зарегистрировали аж девять альтернативных кандидатов — в расчете, что они разорвут голоса протестного электората. И фокус в чем-то удался.

В итоге, положа руку на сердце, не было ощущения, что кто-то из соперников Лукашенко победил (при том что и в 80% за него самого оппозиционно настроенные граждане не верили). Согласно опросу НИСЭПИ даже самые сильные из оппозиционеров набрали тогда негусто: Владимир Некляев — 9,7%, Андрей Санников — 7%.

Сейчас же многие убеждены, что 9 августа 2020 года победила Светлана Тихановская. Во всяком случае, есть серьезные доказательства, что она получила очень много голосов и что выборы были грубо сфальсифицированы.

Нещадно вырубая в минувшей кампании всех более-менее серьезных альтернативных претендентов (Сергей Тихановский, Валерий Цепкало, Виктор Бабарико), власти переиграли сами себя. В итоге протестные голоса феноменально аккумулировала домохозяйка Тихановская.

При этом дало свои плоды моральное общественное давление: на ряде участков бюллетени были подсчитаны честно или относительно честно. И там, как правило, был солидный перевес в пользу Тихановской.

К слову, сейчас власти уже не могут быть уверены в надежности как минимум участковых комиссий. Те, кого в них обычно включают, почувствовали, что за мухлеж с цифрами есть риск ответить уже в обозримом будущем. Это одна из причин, по которым Лукашенко сейчас не хочется затевать референдум и тем более новые выборы.

**Страна вползла в застой и загнивание**

Итак, за десятилетие баланс сил между режимом и сторонниками перемен серьезно изменился. Почему это произошло?

Одна из причин — в том, что социально-экономическая модель Лукашенко, основанная на советской индустриальной базе и российской подпитке, исчерпала свой ресурс, перестала работать. После выборов 2010 года произошел финансовый обвал (аукнулось печатание пустых денег), в конце 2014 года — еще одна резкая девальвация. Экономика стала стагнировать. Белорусский ВВП в долларах сейчас ниже, чем в 2008 году.

На финише президентской кампании 2010 года Лукашенко слетал к тогдашнему президенту России Дмитрию Медведеву, замирился и получил подарки к выборам. Сейчас Москва явно не хочет вкладываться в материальную поддержку белорусского вождя, утратившего большую долю легитимности и потому ставшего токсичным, неперспективным партнером.

Как бы ни изощрялась официальная статистика, но масса белорусов по своим кошелькам четко видит, что доходы перестали расти — скорее, идет сползание в бедность. Средняя зарплата так и пляшет вокруг пресловутых 500 долларов, а ведь цены выросли и доллар уже далеко не тот.

Белорусы видят, что страна все сильнее отстает от соседей — например, тех же поляков. И шансов догнать при этой власти, которая боится реформ, нет, светит лишь экономическое прозябание.

Поэтому о переменах заговорили даже те, кто раньше составлял ядерный электорат Лукашенко: работяги, пенсионеры (пусть, мол, хоть внуки заживут как люди) и пр.

**Не за жратву, а за свободу**

И все же по большому счету людей в этом году поднял на протест не материальный интерес. Лозунги белорусской революции четко показывают: люди вышли не за жратву, а за свободу. Они хотят реально избирать власть и не чувствовать себя рабочей скотинкой. Не желают жить, как под оккупацией.

В общем, теперь совсем другое, чем десять лет назад, состояние умов. В нынешнем году мы увидели, сколь далеко продвинулся процесс формиро-вания гражданского общества и политической нации. Среди белорусов сформировались сильные горизонтальные связи, вызрела мощная, порой трогающая до слез солидарность. Люди научились самоорганизовываться. Сторонники перемен вышли из гетто, почувствовали себя большинством.

При этом старая оппозиция толком так и не пришла в себя после разгрома в конце 2010 — начале 2011 годов. Президентские выборы 2015 года оказались совсем блеклыми, партийные лидеры Анатолий Лебедько и Сергей Калякин не смогли собрать по сто тысяч подписей за выдвижение кандидатами.

Да и перед кампанией 2020 года настроения в традиционной оппозиции были де-факто пораженческими. Провалились праймериз правоцентристской коалиции. Ее представители даже не имели намерения всерьез собирать подписи за свое выдвижение: мол, используем кампанию сугубо для агитации.

Но тут возникли и наделали шороху новые фигуры — Бабарико, Цепкало, чета Тихановских. Их появление совпало с вызревшим запросом на свежую, нестандартную альтернативу. Команды новой оппозиции умело, креативно использовали социальные сети, мессенджеры. Заскорузлая власть бездарно проиграла битву в интернете.

В кампании-2020 Лукашенко, чувствуя шаткость своих позиций, сразу сделал ставку на брутальность, оглушающие репрессии. Зверства силовиков 9–12 августа тоже наверняка не были эксцессом исполнителя. Наверху очевидно рассчитывали повторить опыт разгрома Площади-2010, только в еще более жестоком варианте. Хотели сразу подавить волю к сопротивлению.

Однако получился облом. Люди не испугались, а массово возмутились — и грянули протесты революционной силы.

Как показало исследование Белорусской аналитической мастерской (BAW; Варшава), у протестов 2020 года — мощная мотивация. Руководитель BAW Андрей Вардомацкий отмечает: изначальными причинами мобилизации белорусского общества в нынешнем году стали ситуация с COVID-19 и положение дел в экономике, однако доминантной причиной оказалась жестокость силовиков. Причем у противников режима «произошла трансформация страха в гнев».

Вардомацкий также подчеркивает, что между сторонниками власти и сторонниками перемен «существует полная взаимная непереходимость ценностных систем»…

*(скарочана)*

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**
**«БЕЛАПАН»**

МЕРКАВАННЕ

# ПОЧЕМУ ВЛАСТЬ ЗА ВЫБОР, НО БЕЗ НАРОДА

**Когда Лукашенко говорит: «Я буду драться за эту страну. У меня больше, кроме нее, ничего нет», это он говорит не о стране и не о народе — о власти и о себе в этой системе, уверен эксперт Чалый.**

**Когда любимая всё**

Чалый предполагает, что он едва ли не последний так внимательно следит за риторикой официальных лиц:

— Должен сказать им большое человеческое спасибо. Спасибо, что они продолжают говорить. Это дает удивительную возможность получить окно в их мир.

Сегодня это «окно» в мир от главы КГБ Ивана Тертеля.

*Этот мир существует ради заговора против Беларуси, уверен Тертель. Говоря про геополитический передел мира, он заявляет: «Казалось бы, нас 9,5 миллиона жителей, нет выхода к морю, небогатая на природные ресурсы, только калийные удобрения и лес. Казалось бы, что к этой маленькой стране? Но мы на разломе интересов Востока и Запада. Польша называет нас своим „подбрюшьем". Россия нас называет „Смоленские ворота", прямой выход к Москве. Кто будет контролировать Беларусь, тот будет доминировать в регионе. Если Россия здесь будет доминировать — это будет серьезный удар по Украине. Мы находимся в центре разделения мира».*

— И действительно, у нас уже нет ни одной дружеской страны. Разве что Китай — но он скорее безразличен к нам. Россия — это frenemy: то ли друг, то ли враг, причем вынужденный, вроде соседа по коммунальной квартире, — комментирует Чалый.

Аналитик обращает внимание на то, что у всех трех спикеров, пытающихся вдолбить, как сказал Лукашенко, в голову народа свою картину мира, это не выходит — ни у Кочановой, ни у Тертеля, ни у самого Лукашенко.

Он говорит, что есть рабочая гипотеза: нынешнее представление Лукашенко о том, что происходит в мире, это защитная реакция, вытеснение. Это способ справиться с когнитивным диссонансом. Он не может поверить в то, что народ его разлюбил, что «любимая» решила уйти к другому. И начинается обычный набор реакций вроде «ты никого не найдешь лучше меня», «я же к ним съездил, поговорил — они тебя недостойны».

— Правда, чтобы поговорить, пришлось сперва всех посадить, но это не очень важно. Главное — убедиться, что все недостойны «любимой». Важно убедить себя, что это не она решила уйти, это ее кто-то настраивает, ей задурил голову какой-то коварный соблазнитель, пользуясь адскими технологиями. И подружки плохо на любимую влияют. Наговорили всякого про меня, а я не такой — так что давай перевернем страницу, — отмечает Чалый.

А дальше история начинает обрастать деталями. Известно, как отличить вранье от правды: у вранья избыточное количество подробностей. Поэтому нам не просто говорят про некие происки врагов, а появляются бесконечные перехваты информации, заявления спецслужб, нагромождение диких доказательств — лишь бы не признаться себе, что тебя разлюбили.

**Имитация ради манипуляции**

При этом Лукашенко в собственном представлении — былинный богатырь Святогор, который черпает силы, касаясь земли, продолжает Чалый. И ему не нужны посредники, не нужны партии, консультанты.

— Он общается напрямую с народной стихией, которая его когда-то вознесла на пьедестал. Тогда, в начале его политической карьеры, это реально была волна, была энергия, и тот, кто ее почувствовал, требует такого на постоянной основе. А дальше любви хочется, но ты готов прилагать для этого все меньше усилий. И тогда вокруг появляются консультанты, тогда для создания иллюзии любви тебе требуется специально отобранный народ, который задаст специально подготовленные вопросы и

*(працяг на стар. 4)*

МЕРКАВАННЕ

*(пачатак на стар. №3)*
изобразит заранее отрепетированное обожание.

Еще одна ипостась имитации — попытка повторить действия оппонента. Выходят женщины с цветами? А мы женский форум проведем. В итоге рождается шутка о том, как Мисс Беларусь в исполнении власти превращается в игуменью Гавриилу.

Есть масса способов справиться с когнитивным диссонансом, есть — продуктивные, есть — непродуктивные. И путь имитации — непродуктивный. Это вынужденная вещь. При этом Чалый уверен: многие из тех, кто транслирует эту картину мира, сами в нее не верят. Это именно механизм выражения лояльности.

— Чтобы быть у власти сейчас, надо сознательно разделять этот абсурд, выстроенный вокруг человека, пытающегося вытеснить из своего сознания неприятные факты.

Так что упоминание Натальей Кочановой фейкового плана Даллеса, ставшее мемом, — системный элемент, уверен эксперт.

— Одно дело постправда, когда все на грани, и неизвестно, где истина. Вот Тертель цитирует секретный доклад западных спецслужб, где якобы говорится, что Беларусь проявила эффективную политику исходя из экономических возможностей по борьбе с пандемией. Ни подтвердить, ни опровергнуть этот факт мы не можем. Тут смущает не содержание послания, а сам факт ссылки на него. Почему мы должны в качестве авторитетного источника принимать какие-то секретные доклады чужих спецслужб? Мы что, сами не можем оценить, насколько хорошо прошли первую волну? Но с планом Даллеса все однозначно: это фейк.

Ранее мы говорили о том, как власть пытается создать легитимность без реальных выборов, то есть выбирая народ для вручения главе государства скипетра и державы из самих себя, эксперт напоминает российский термин «имитационная демократия», «управляемая демократия».

— Считалось, причем людьми с вполне интеллигентским бэкграундом, что если народу дать выбирать, он выберет что-то не то. Фашистов выберет. Так что лучше выбор за него сделаем мы. Лукашенко сам оговаривался, что выборы проведем, а власть — не отдам. В его понимании это реально разные вещи: у власти иной источник. Власть — это не когда большинство народа выбрало тебя на какой-то короткий срок выражать их интересы. Это то, что берется волей, силой, может, даже насилием, как сейчас, как это было в период референдума 1996 года. Процедуру подсчета нельзя пускать на самотек, она — часть процесса, часть мироустройства, в котором былинный герой лучше знает, как должно быть. То есть представление об общем благе формируется не суммированием представлений отдельных людей об индивидуальном благе, а кто-то один решит это за других, — рассказывает Чалый.

И когда Лукашенко говорит: «Я буду драться за эту страну. У меня больше, кроме нее, ничего нет», это он говорит не о стране и не о народе — о власти и о себе в этой системе, уверен эксперт.

— А если дать народу выбор — может случиться беда, уверен он, и выстраивает систему управляемой демократии, стараясь соблюсти некие приличия. А то поизбирают себе всяких «незнакомых президентов». Зачем, если есть знакомые? — иронизирует Чалый.

Интересно, что многие вертикальщики верят, что и в других странах система власти устроена так же, продолжает аналитик. Просто у тех — пиар лучше, как у той морской свинки, которая людям симпатичнее крысы именно из-за лучшего пиара.

— Тертель так прямо и говорит: «Я считаю, что демократия — это политтехнология». Притом что сам термин «политтехнология» нигде, кроме постсоветского пространства, больше не используется. На Западе под этим понимается совершенно иное — организация избирательного процесса с точки зрения мобилизации людей, распространения информации и т. п. Никто там не пытается промывать мозги, тем более что это невозможно в условиях свободного рынка СМИ, огромного количества экспертов, партий, — отмечает Сергей Чалый.

*(сильно сокращено)*

**TUT.BY**

РАССЛЕДАВАННЕ

# «23.34. МЫ ЎСЁ ЗАПІСВАЕМ»

**312 судзьдзяў — гэта 2846 несправядлівых прысудаў, 706 тысяч рублёў штрафаў і 12 965 дзён арышту.**

Аўтары праекту «23.34. Мы ўсё запісваем», створанага для грамадзкага расьсьледаваньня парушэньняў з боку міліцыі, зьвязаных зь мірнымі акцыямі, сабралі ўжо 4426 гісторыяў затрыманых і асуджаных паводле арт. 23.34 КаАП, а таксама выпадкаў гвалту сілавікоў пры затрыманьні.

У абноўленай статыстыцы судоў над удзельнікамі пратэс-таў у Беларусі «А судзьдзі хто?» на сайце 23-34.net сабрана 4368 гісторыяў асуджаных паводле артыкулу 23.34 КаАП «Пару-шэньне парадку арганізацыі або правядзеньня масавых мерапрыемстваў». Усяго:

- прааналізавана 2846 судовых працэсаў,
- у іх фігуравалі імёны 312 судзьдзяў,
- яны агулам прысудзілі 12 965 дзён арышту і 706 237 рублёў штрафаў.

У адпаведнай табліцы можна пабачыць рэйтынг судзьдзяў паводле агульнай колькасьці «сутак» і штрафаў, якія яны прысудзілі. У «топ-5» судзьдзяў, якія прысудзілі найбольш арыштаў і штрафаў:

- Максім Трусевіч (Менск, суд Першамайскага раёну) — вынес 75 пастановаў суду, прысудзіў агулам 601 дзень арышту і 16200 рублёў штрафаў,
- Анастасія Ляйкоўская (Менск, суд Першамайскага раёну) — 47 пастановаў, прысудзіла агулам 227 дзён арышту і 15174 рублёў штрафаў,
- Аляксандар Воўк (Менск, суд Савецкага раёну) — 45 пастановаў, 277 дзён арышту і 12960 рублёў штрафаў,
- Вікторыя Шабуня (Менск, суд Цэнтральнага раёну) — 44 пастановы, 236 дзён арышту і 12420 рублёў штрафаў,
- Вольга Няборская (Менск, суд Кастрычніцкага раёну) — 41 пастанова, 240 дзён арышту і 10071 рубель штрафаў.

Хто часьцей за іншых даваў штрафы і адпраўляў людзей на «суткі», таксама можна пабачыць на сайце праекту «Грамадзянскі кантроль судовай сыстэмы»: тут рэйтынг судзьдзяў, якія сыстэматычна «вылучаюцца» пры вынясеньні прысудаў паводле 23.34 КаАП, і падрабязная статыстыка прысудаў кожнага судзьдзі.

**“Радыё Свабода”**

ЗВАРОТ

# ЦІ ПАДТРЫМЛІВАЕ ХАКЕЙНЫ СВЕТ ГВАЛТ І ГЕНАЦЫД, ЯКІЯ РОБЯЦЦА Ў БЕЛАРУСІ?

**Чэмпіянат свету па хакеі павінен быць святам — звяртаецца знакамітая беларуская баскетбалістка Алена Леўчанка да Рэнэ Фазэля: «Але як можна святкаваць, калі беларусы крычаць ад болю?»**

Баскетбалістка Алена Леўчанка выступіла з адкрытым зваротам да прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі хакея Рэнэ Фазэля.

Я заўсёды ставілася да тытулаў як да выніку сваёй кар'еры, і ніколі не выкарыстала іх, каб вырашаць складаныя пытанні, таму і да вас сёння я хачу звярнуцца проста як беларуска, — гаворыць Алена Леўчанка ў сваім адкрытым лісце. — І хачу звярнуцца да вас не як да ўплывовай і аўтарытэтнай постаці са свету спорту, а, перш за ўсё, як да чалавека, якому, я ўпэўненая, будзе неабыякава пачуць мяне.

Я ведаю, што правядзенне чэмпіянату свету па хакеі ў траўні 2021-га года пад вялікім пытаннем з-за палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Але я хацела б сказаць, што ад вашага рашэння будзе залежаць зусім не тое, ці адбудуцца запланаваныя матчы ў Мінску, ці не. Зыходзячы з гэтага рашэння стане зразумела, ці падтрымлівае хакейны свет у вашай асобе гвалт і генацыд, якія робяцца ў Беларусі.

Пандэмія паказала нам, што спорт немагчымы без заўзятараў: ён папросту не мае сэнсу без людзей на трыбунах. Заўзятары — актыўныя грамадзяне любога грамадства. Кожны мае пашпарт, а кожны дарослы можа галасаваць. Таму нельга проста ўзяць і выключыць спартсменаў і сказаць, што мы — па-за палітыкай. Хто мы? І вас, як чыноўніка, і мяне, як спартоўца, — нас проста няма без заўзятараў. Я разумею, што ўсё, чаго вы хочаце — гэта бачыць зноў Мінск такім жа, якім вы яго запомнілі: чыстым, светлым, ціхім. Згуляць турнір і забыцца пра гэта. Але вы не зможаце правесці чэмпіянат і не заўважыць людзей. Беларусы — ёсць. Мы — народ. Мы — нацыя. А Чэмпіянат свету па хакеі — гэта свята. Але як можна святкаваць, калі беларусы крычаць ад болю?

Ні адзін чалавек у 2020-м годзе не мае права забіваць і калечыць іншага проста таму, што ён мацней, і ў яго руках зброю. А калі вы ведаеце пра гэтыя жахлівыя забойствы і катаванні (30 000 беларусаў за апошнія чатыры месяцы прайшлі праз турмы), калі вы ведаеце і нічога не робіце, значыць, вы заахвочваеце гэта, — вы проста стаіце на другім баку дарогі і назіраеце.

Жыццё кожнага чалавека важнае! Правы кожнага чалавека роўныя. І ні ў каго з нас не будзе магчымасці пражыць гэтае жыццё другі раз. Ваша рашэнне будзе вельмі важным, і яно зусім не пра хакей.

У прэсе я чытала, што ў бліжэйшы час вы плануеце асабіста сустрэцца з Аляксандрам Лукашэнкам, каб абмеркаваць усе нюансы чэмпіянату свету. Якіх гарантый вы хочаце? Абяцанні, што людзі перастануць змагацца за свабоду, выходзіць на вуліцы і выказваць сваё меркаванне і нязгоду з тым, што адбываецца?

Я ўпэўненая, што вам забяспечаць бяспечны шпацыр па Менску: выдадуць персанальную ахову, і людзі ў балаклавах будуць дзяжурыць у кожным двары па шляху вашага руху, не дапускаючы ніводнага мінака бліжэй чым на 100 метраў. Для вас могуць перакрыць вуліцы і аўтамабільны рух, вы трапіце ў рэстараны, якія адкрыюць толькі для вас і закрыюць для ўсіх астатніх. Вас не закране той жах, які закрануў мільёны беларусаў. Але я сумняваюся, што такія дзеянні з'яўляюцца нармальнымі для Швейцарыі, грамадзянінам якой вы з'яўляецеся.

Я не здзяйсняла злачынстваў, але была арыштаваная, асуджаная двойчы і адседзела 15 сутак у ізалятары на Акрэсціна: без гарачай вады, без ацяплення, без медыкаментаў, без пасцельнай бялізны, у камеры адключылі сліў каналізацыі. Кароткі шпацыр даводзілася чакаць 5 дзён — і гэта было марай. Такая простая мара: убачыць неба. Я спала на жалезных бэльках. У мяне з'явіліся галаўныя і адзежныя вошы.

Адной з маіх сукамерніц аказалася грамадзянка Швейцарыі. Яе завуць Наталля Хершэ. І цяпер яна асуджаная на 2,5 года за тое, што сарвала балаклаву з байца АМАПа. Але я хачу нагадаць, што супрацоўнік сіл правапарадку павінен гэты парадак выконваць і ахоўваць, а не хаваць свой твар, як рабаўнік банка з дэтэктыўнага фільма.

Ведаеце, Наталля Хершэ вельмі светлая, добрая дзяўчына. Яна ўмее любіць. У яе ёсць блізкія і сям'я. І яна не злачынца. Таму я веру, што сустрэцца з Аляксандрам Лукашэнкам вы хочаце толькі для таго, каб яна выйшла на волю як мага хутчэй. Я веру, што сустрэцца з ім вы маюць намер затым толькі, каб асабіста сказаць, што вы супраць гвалту, што катаваннем у XXI стагоддзі ў цэнтры Еўропы няма месца, што сусветны хакей ніколі не падтрымае дыктатуру, таму што правы чалавека — гэта самая галоўная каштоўнасць. І што Дзмітрый Баскаў, замяшаны ў смерці Рамана Бандарэнкі, не можа займаць пасаду старшыні Федэрацыі хакея Беларусі і заставацца на волі. Спадзяюся, менавіта гэта і ёсць сапраўдная мэта вашага візіту.

«Сёння кожны беларус, калі выходзіць на вуліцу, не ўпэўнены, вернецца ён дадому ці не. Ведаць на памяць нумар свайго адвоката і адрасы ўсіх турмаў становіцца нашым штодзённым абавязкам. У кожнага ёсць хоць бы адзін сябар, знаёмы ці блізкі, які пабыў за кратамі. Спадзяюся, вам ніколі не прыйдзецца даведацца і прачуць нешта падобнае і перажыць той жах, у якім ужо чатыры месяцы жывуць беларусы.

На заканчэнне свайго звароту да вас, я хацела б сказаць, што, калі мы глядзім у люстэрка, то застаемся сам-насам са сваім сумленнем. А калі мы засынаем — у нас няма ніякіх тытулаў, рэгаліяў і званняў. Улада і ўплыў патрэбныя толькі для аднаго — каб мяняць свет да лепшага. Дазвольце нам паважаць вас як чалавека!» — гаворыцца ў лісце баскетбалісткі.

**Паводле tribuna**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 28.12.2020 у 17.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.